*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 9
Чэрвень
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

## Статут Вялікага Княства Літоўскага - ў Магілёве

9 чэрвеня 2012 г. ў Магілёве у гарадзкой ратушы адбылася прэзэнтацыя выкупленага ў Расеі экзэмпляра статута Вялікага Княства Літоўскага, выдадзенага ў 1588 годзе Львом Сапегам.



Ініцыятарам выкупу беларускай рэліквіі стаў музей гісторыі Магілёва. За кошт прыватных ахвяраванняў было сабрана $15 тыс. Асноўную суму — $30 тыс. — прапанавала музею група кампаній «Альпары», якая адгукнулася на просьбу Нацыянальнага банку Беларусі дапамагчы ў набыцці кнігі.



*У залю пасяджэньняў ратушы паглядзець на беларускую рэліквію прыйшлі больш за паўсотні магілёўцаў.*

Дырэктар музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў, звяртаючыся да грамады, адзначыў: *«Магчымасць выкупіць статут зявілася дзякуючы таму, што была вялікая грамадзкая падтрымка. Вяртанне статута не трэба ўспрымаць як нейкую завершаную акцыю, маўляў, захацелі выкупіць — выкупілі і забыліся. Гэта адно са звёнаў вялікага ланцуга па вяртаньні гістарычна-культурных каштоўнасцяў у Беларусь. Гэта клопат практычна агульнанацыянальны».*



*Аляксей Бацюкоў, Зміцер Яцкевіч і Андрэй Радкоў*

Інфармацыю пра продаж статута з адкрытага аўкцыёну адшукаў беларускі студэнт Андрэй Радкоў. Расійскі калекцыянер першапачаткова прасіў за статут 52 тысячы даляраў. Спадару Радкову ўдалося зменшыць цану да 45 тысяч.

Удзячнасьць грамадзкасьці за дапамогу ў выкупе статута выказваў на прэзэнтацыі і гісторык Зміцер Яцкевіч. Ён ездзіў у Маскву, каб спраўдзіць, ці сапраўдны экзэмпляр статута. Паводле гісторыка, у Расіі выкуплены асобнік статута апынуўся падчас вайны ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Ім валодалі князь Крапоткін-Смаленскі, потым архіепіскап Пераслаўска-Разанскі. У 1839 годзе яго перадалі ў Разанскую духоўную сэмінарыю. *«Менавіта тады быў зроблены пераплёт гэтага выдання, таму ён такі няўдалы. Менавіта тады быў зроблены надпіс, што ён на беларускай мове. Далейшы яго лёс складаны і цікавы. Калекцыянер не сказаў нам, адкуль ён у яго. Але галоўнае, што ён ёсьць, што ён з намі. Так, як ён быў тут і раней — у гэтай ратушы. І раней магілёўцы карысталіся ім для вырашэньня сваіх спраў»,* — распавядаў грамадзе Зміцер Яцкевіч.

На прэзэнтацыі статута Вялікага Княства Літоўскага прысутнічаў аўтар музыкі да гарадзкога гімну Магілёва Мікола Яцкоў. Яго ўражанні ад падзеі: *«Я знаходжуся сёння ў гэтым святым месцы, магілёўскай ратушы, ад муроў якой ідзе сіла магілёўцаў. Пра якіх у тыя далёкія часы казалі, што Магілёў - сталіца бунтаў на Літве. Сёння часцінка той гісторыі, статут Вялікага Княства Літоўскага, вярнуўся праз столькі гадоў на сваю радзіму. Я вельмі рады, што дажыў да гэтага дня».*



*Выступае Мікола Яцкоў*

На прэзэнтацыі было агучана, што неўзабаве экспазыцыя музэю гісторыі Магілёва можа папоўніцца яшчэ трыма беларускімі старадрукамі. Іх назвы пакуль што не агучваюцца. Што да выкупленага статута Вялікага Княства Літоўскага, то ён застанецца ў музеі гісторыі Магілёва, які месціцца ў ратушы.

*Паводле svaboda.org*

*Фота Г.Ільіной, Д.Васількова і М.Яцкова.*

## Сталічны дэсант

17 мая 2012 г. Магілёў наведала прадстаўнічая дэлегацыя Рады інтэлігенцыі. Да магілёўцаў прыехалі Уладзімір Колас, Лявон Баршчэўскі, Анатоль Гуляеў і Аляксей Марачкін. Госці адзначылі, што існуюць пэўныя цяжкасці ў справе кансалідацыі дэмакратычных сіл на ўзроўні сталіцы. Таму ёсць жаданне, каб гэтыя працэсы пайшлі знізу, з правінцыі. І дзеля гэтага трэба працаваць, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці.



*У.Колас*



*Л.Баршчэўскі*



*А.Гуляеў*



*А.Марачкін*

Прысутныя не толькі слухалі гасцей, але і выказвалі свае меркаванне. Дыскусія часам прымала даволі жорсткія формы. Напрыклад, вядомы Валадар Цурпанаў паставіў пад сумнеў дзейнасць Рады інтэлігенцыі наогул і абвінаваціў яе ў нэздольнасці аб'яднаць не толькі кагосьці, але і сваю ўласную арганізацыю. І абвясціў, што ствараe ў Магілёве сваю ўласную партыю і гэтым самым пакажа прыклад сапраўднай кансалідацыі і ўмення аб'яднаць людзей для дасягнення пастаўленай мэты.

Былі таксама закрануты пытанні працы з моладдзю і развіцця камунікацыйных інфармацыйных сетак.

Па словах гасцей, такія сустрэчы будуць ладзіцца і ў будучым.

*Міхась БАРАЗНА.*

## Бракаўская крыніца

На Тройцу была асвячона крыніца каля вёскі Бракава Магілёўскага раёна

8 гадоў таму да айца Георгія Пінчука звярнуўся адзін з жыхароў вёскі Бракава Магілёўскага раёна з просьбай асвяціць ваду ў крыніцы, які знаходзіцца побач з вёскай. З тых часоў кожны год у адзін з галоўных хрысціянскіх святаў - дзень Святой Тройцы - жыхары бліжэйшых вёсак збіраюцца каля крыніцы, каб набраць асвячонай вады. У гэтым годзе ў арганізацыі свята Святой Тройцы настаяцелю храма іконы Божай Маці «Усецарыца» протаіерэю Георгію Пінчуку дапамагалі магілёўскія казакі пад правадырствам атамана Сяргея Анатольевіча Крушыцкага. Казакі прывялі ў парадак тэрыторыю каля крыніцы.

Пасля таго, як абрад асвячэння вады быў скончаны, прыхаджане храма і жыхары навакольных вёсак змаглі набраць асвячонай вады, пакаштаваць сапраўднай юхі і гарбаты з самавара.

Дзень Святой Тройцы - адзін з галоўных хрысціянскіх святаў, які ўваходзіць у праваслаўі ў лік двудзесятых святаў. Лічыцца, што ў гэты дзень Святы Дух сышоў на апосталаў у выглядзе вогненных языкоў у знак таго, што яны могуць прапаведаваць вучэнне Хрыстова. Праваслаўная царква адзначае Тройцу на 50 дзень пасля Вялікадня, у нядзелю - у храмах праходзіць адна з найбольш урачыстых і прыгожых службаў у годзе.

У гэтым годзе свята прыйшлося на 3 чэрвеня.

*Падрыхтаваў Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

# ВАНДАЛЫ

Раніцай 3 чэрвеня ў Магілёве быў апаганены памятны знак, усталяваны ў памяць аб габрэях-ахвярах нацызму - невядомыя аблілі яго фарбай. Трохлітровы слоік з-пад фарбы пазней была выяўлены недалёка ад самога помніка.

*-- Яшчэ захаваліся людзі, якія нас вельмі «любяць», бо гэта абраза не помніка, гэта абраза памяці тых людзей, якія аддалі свае жыцці падчас фашызму,* - каментуе сітуацыю старшыня іудзейскай рэлігійнай абшчыны Магілёва Навум Іофэ. - *Атрымліваецца, што фашысцкія неданоскі да гэтага часу жывуць на нашай зямлі.*

Нагадаем, што знак «У памяць аб яўрэях Магілёва - ахвярах нацызму» быў усталяваны



тры гады таму на месцы гета, якое існавала ў Магілёве падчас гітлераўскай акупацыі (цяпер перасячэнне вуліц Першамайскай і Лазарэнка). Грошы на помнік ахвяравалі жыхары Магілёва. Зараз фарбай заліта каля 60% памятнага знака, не бачная надпіс, малюнак далоняў і зорка Давіда, высечаныя на камені.

Паколькі помнік знаходзіцца на балансе горада, то прадстаўнікі яўрэйскай абшчыны лічаць, што менавіта гарадскія ўлады павінны цяпер прывесці яго ў парадак.

*-- Мне хацелася б, каб гарадскія ўлады далі гэтай нагоды належную ацэнку і прывялі помнік у парадак,* - сказаў Навум Іофэ.

**Алесь СУВОРАЎ.**

# Пра цэны

На выніках студзеня-красавіка Беларусь з 6,8% заняла першае месца сярод краін былога СССР па росце спажывецкіх цэн. Далей ідуць Эстонія (2,4%), Літва (2,3%), Латвія (2,2%), Арменія (2,1%), Таджыкістан (1,9%), Расія (1,8%), Казахстан (1,7%), Малдова (1,2%), Украіна (0,7%), Кыргызстан (0,6%), Грузія (0,5%) і Азербайджан (0,1%).

У Узбекістане цэны за першы квартал павялічыліся на 2,7%, у самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы -- на 6,6%.

Па росце спажывецкіх коштаў у красавіку Беларусь з 1,7% таксама заняла першае месца. Далей ідуць Казахстан, Таджыкістан (па 0,7%), Латвія, Літва (па 0,6%), Расія, Эстонія (па 0,3%) і Малдова (0,2%). Ва Украіне кошты не змяніліся. У Грузіі яны знізіліся на 0,03%, у Кыргызстане - на 0,2%, у Азербайджане - на 0,4%, у Арменіі - на 0,6%. Няма даных па Туркменістане і Узбекістане.

У 2011 годзе Беларусь заняла першае месца сярод краін былога СССР па росце спажывецкіх цэн (108,7%). З 1 па 22 мая 2012 года цэны павысіліся на 1,1%, з пачатку года - на 8%. *(БелаПАН)*

# Ці была вайна 1812 года Айчыннай?

Круглы стол, прысвечаны 200-годдзю вайны 1812 года, прайшоў у МДУ ім. А.А. Куляшова. Прысутным навукоўцам прапанавалі абмеркаваць шэраг пытанняў, звязаных са спецыфікай ўспрымання падзей 1812 года ў беларускім грамадстве.

Доктар навук, прафесар Ігар Марзалюк адзначыў: *«У савецкія часы існаваў аднaзначны падыход - вайну з Напалеонам лічылі Айчыннай, апелюючы да стэрэатыпаў, выпрацаваных у рускай літаратуры і навуцы. Аднак не ўсё так проста...»* Гісторык падкрэсліў, што стаўленне да Напалеону па сутнасці падзяліла беларусаў - адны пайшлі ў легіёны французаў, іншыя падтрымалі рускага імператара Аляксандра І. Фак-



*Ігар Марзалюк*

тычна, на тэрыторыі Беларусі ішла грамадзянская вайна. Трагедыя заключаецца ў тым, што, напрыклад, на Барадзінскім полі беларусы змагаліся па абодва бакі. Ігар Марзалюк правёў аналіз гістарычных дакументаў, паведаміўшы цікавыя факты, якія тычацца гісторыі Магілёва. Французаў, як і ў многіх іншых гарадах Беларусі, мясцовыя жыхары сустракалі, літаральна, хлебам і соллю. Служыліся набажэнствы ў касцёлах і праваслаўных цэрквах, зноў пачаў працу магістрат. *«Многія жыхары Магілёва звязвалі з Напалеонам надзеі на адраджэнне Рэчы Паспалітай, аднак гэта былі менш чым ілюзіі. Банапарт вёў сваю палітычную гульню, і беларусам у ёй адводзілася роля пешак»,* - сказаў на заканчэнне І.Марзалюк.

***Юлія БРУК.***

# Прадчуванне часу

Паэты - заўсёды прарокі. І нават, калі пішуць нешта гумарыстычнае. Прыкладам можа быць вось гэты вершык вядомага віцебскага паэта-сатырыка Міхася Міранoвіча, надрукаваны ў часопісе “Вожык” недзе напачатку 1990-х, калі наша краіна знаходзілася *“на краю пропасти”*. Шмат вады сплыло з тых часоў, а вершык усё такі ж актуальны ды злабадзённы. Вось таму мы і кажам, што паэты - заўсёды прарокі. І да таго, што яны кажуць, трэба вельмі ўважліва прыслухоўвацца...




*Нас абы хто*
*абы куды*
*вядзе,*
*І абы што*
*мы робім*
*абы як.*
*І вось таму*
*мы зараз*
*абы дзе,*
*І нам адтуль*
*не выбрацца*
*ніяк.*

*Падрыхтаваў Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

# Увага!




У мэтах папярэджання здзяйснення злачынстваў і скарачэння іх колькасці, Магілёўскі РАЎС просіць рабіць наступнае:

- пры з’яўленні ў населеным пункце незнаёмых падазроных грамадзян, асабліва каўказскай (цыганскай) нацыянальнасцей, ні ў якім разе не ўпускаць іх у сваё жыллё, а адразу паведаміць у міліцыю ці ўчастковаму інспектару міліцыі;
- не расказваць суседзям, староннім грамадзянам аб набытых вамі залатых вырабах ці іншай каштоўнай маёмасці;
- зрабіць у сваім жыллі ахоўную сігналізацыю ці умацаваць ўваходныя дзверы дадатковымі запор-нымі прыстасаваннямі;
- калі вы зрабіліся ахвярай злачынства, пастарайцеся запомніць прыкметы злачынцаў, марку, колер і дзяржаўны нумар аўтатранспарта, на якім язы з’ехалі і неадкладна паведамце ў аператыўна-дзяжурную службу. На месцы здарэння нічога не чапайце, не ўбірайце раскіданыя рэчы, маёмасць, каб захаваць сляды і карціну здарэння.

# Не бяры чужога

Позна ўвечары 45-гадовы жыхар вёскі Сідаравічы Магілёўскага раёна ледзь дашкандыбаў да суседзяў, каб выклікаць "хуткую". Ён быў увесь у сіняках, на твары, руках і грудзях - апёкі. Чалавека забралі ў бальніцу, а міліцыя па гарачых слядах затрымала яго крыўднікаў.

Пацярпелы зарабляў на жыццё зборам металалому. Нядаўна аднавяскoвец і жыхар суседняй вёскі папрасілі аднесці ў скупку заадно і іх метал. Лом збowршчык здаў, але, калі прыяцелі прыйшлі за разлікам і запатрабавалі 200 тысяч рублёў, грошы аддаць чамусьці адмовіўся. 25-гадовыя госці, абодва раней судзімыя за крадзяжы, накінуліся на яго з кулакамі. Затым аблілі на падворку бензінам і падпалілі. Адумаўшыся, патушылі жывы факел коўдрай. Пасля чаго, перакапаўшы ўсю хату, знайшлі гаспадарскія грошы пад матрацам. Адлічылі 200 тысяч рублёў і сышлі.

У дачыненні да затрыманых распачата крымінальная справа. *(Паводле “СБ. Беларусь сегодня”)*

# Бацька-забойца

У Магілёве ў пакоі аднаго з інтэрнатаў са слядамі пабояў знойдзены труп хлопчыка 2011 года нараджэння.

Згодна з заключэннем судова-медыцынскай экспертызы, смерць наступіла ад чэрапна-мазгавой траўмы. Папярэдне ўстаноўлена, што дзіця збіў 39-гадовы бацька. Падазроны затрыманы.

***Падрыхтаваў Алесь СУВОРАЎ.***

# Варта запомніць

Тры рэчы ніколі не вяртаюцца назад:
Час, слова, магчымасць.
Тры рэчы не варта губляць:
Спакой, надзею, гонар.
Тры рэчы ў жыцці найбольш каштоўныя:
Каханне, перакананні, сяброўства.
Тры рэчы ў жыцці ніколі не надзейныя:
Мары, поспех, маёмасць.
Тры рэчы вызначаюць чалавека:
Праца, сумленнасць, дасягненні.
Тры рэчы руйнуюць чалавека:
Віно, ганарыстасць, злосць

**Уважліва глядзі, на каго ты наступіў, рухаючыся наверх, таму што ты сустрэнешся з імі на шляху ўніз.**

“СПРАВА”
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб сродках масавай інфармацыі”.

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 15.06.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.


«СПРАВА» заўсёды на www. kamunikat. org/